# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 8(67) Жнівень 1999 August Год выд. 7.


## Дэлегаты 6-га Зьезду Беларускага Народнага Фронту ня здолелі выбраць новага лідэра гэтае буйнейшае апазыцыйнае арганізацыі ў Беларусі. Зьезд адбыўся ў канцытыдня 31-га ліпеня і 1-га жніўня гэтага году ў Менску.

*Першая сэсыя шостага зьезду Беларускага Народнага Фронту скончылася сёньня нічыёй -- аніводзін з кандыдытаў, вылучаных на пасаду старшыні БНФ, не набраў неабходнай колькасьці галасоў. Вырашана, што ў верасьні адбудзецца другая сэсыя шостага зьезду Фронту.*

У нядзелю з раніцы дэлегаты зьезду абмяркоўвалі вельмі важныя працэдурныя пытаньні -- як абіраць кіраўніцтва Фронту? Зянон Пазьняк і ягоныя прыхільнікі настойвалі на тым, каб спачатку абраць старшыню, які б потым прапанаваў зьезду склад сойму й сіпіс намесьнікаў кіраўніка. Апанэнты дзеючага старшыні прапаноўвалі, каб лідэр руху й Сойм абіраліся аднachасова. Пасьля некалькіх галасаваньняў, якія суправаджаліся гарачымі спрэчкамі, было вырашана спачатку абіраць старшыню. Інакш кажучы, прайшла прапанова Пазьняка і ягоных прыхільнікаў.

Сярод дэлегатаў зьезду былі распаўсюджаны сьпісы сябраў Сойму, якіх мелі намер прапаноўваць зьезду ў выпадку свайго абраньня, Зянон Пазьняк і кіраўнік аргкамітэту зьезду Вінцук Вячорка. Пасьля пачалося вылучэньне кандыдатаў. Было названа 7 прозьвішчаў: Пазьняка, Вячоркі, Баршчэўскага, Хадыкі, Івашкевіча, Сіўчыка і Шыдлоўскага.

Было аб'яўлена, што справаздачны даклад Пазьняка зьяўляецца аднachасна ягоным словам кандыдата. Астатнія кандыдаты атрымалі магчымасьць выступіць. Як высьветлілася, такое шматлюднае вылучэньне было палітычнай камбінацыяй. Пяцёра выступоўцаў зьнялі свае кандыдатуры на карысьць Вячоркі й выкарысталі прадстаўлены ім час для агітацыі за свайго кандыдата.

Спадар Вячорка ў сваім выступе сказаў, што дыскусыя, якая разгарэлася ў Фронце сьведчыць аб зьяўленьні ў руху парасткаў дэмакратызму. Ён усклаў віну за магчымы раскол Фронту на Зянона Пазьняка, паведаміўшы, што напярэдадні зьезду дзейны старшыня Фронту заявіў сваім апанэнтам -- ўсё вырашана, хто не згодны -- мусіць сыйсьці.

Спадар Вячорка заклікаў да пераменаў у руху. Выказаўся супраць таго, каб прапаноўваць людзям сцэнары, узятыя з XIX стагодзьдзя. "Мы павінны перамагчы на рэальных выбарах, а не ў нейкай віртуальнай рэальнасьці", -- заявіў кандыдат у старшыні Фронту. Некаторыя зь іншых кандыдатаў, зьняўшы свае кандыдатуры на карысьць Вячоркі, зьвярталі ўвагу на тое, што ў сьпісе сябраў Сойму, які прапануе Пазьняк, няма прозьвішчаў а ні воднага зь ягоных апанэнтаў. У той час, як ў соймавым сьпісе Вячоркі ёсьць і Пазьняк, і шэраг прыхільнікаў дзейнага старшыні.

Калі засталося толькі два кандадаты, было вырашана заслухаць па два выступы за Пазьняка й за Вячорку. Прафэсар Мікалай Крукоўскі ў сваёй прамове адзначыў, што толькі Зянон Пазьняк валодае харызмаю, якой няма ў ягоных канкурэнтаў. Мастак Алесь Пушкін выказаўся за перамены ў Фронце, якія, на ягоны пагляд, увасабляе Вінцук Вячорка. Ён дадаў, што найлепшым варыянтам быў бы падзел галасоў. Як ні дзіўна, зьдзейсьніўся менавіта гэты, амаль неверагодны варыянт, які ўзгадаў спадар Пушкін.

Пасьля ўсіх прамоваў і выступаў пачалося патаемнае галасаваньне за старшыню. У чатыры гадзіны на трыбуну зьезду выйшаў старшыня падліковай камісыі Барыс Хамайда і паведаміў вынікі галасаваньня.

У ім ўзялі удзел 313 дэлегатаў. За Вінцука Вячорку выказаліся 152 чалавекі, супраць -- 160 дэлегатаў. За кандыдатуру Зянона Пазьняка аддалі свае галасы 156 дэлегатаў, супраць роўна ж столькі -- 156 чалавек.

Па статуту Фронту старшынёй лічыцца той, за каго выказалася бальшыня дэлегатаў, узяўшых удзел у галасаваньні. Бальшыня ня выказалася ні за воднага кандыдата. Па прапанове выконваючага абавязкі старшыні Фронту Лявона Баршчэўскага, дэлегаты прынялі рашэньне ў верасьні правесьці другую сэсыю зьезду.



**Спадарыня Валянціна ЯЦЭВІЧ — знаная і дзейная беларуская грамадзка-рэлігійная дзеячка ў Кліўлендзе, ЗША. Вялікая патрыётка свайго народу.**
**Дарагая Валянціна! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**



### ЗАЯВА
### Сакратарыяту ТБМ.
**На Грунвальдзкім полі была выратавана беларуская мова.**

У далёкім ліпені 1410-га году аб'яднаныя беларуска-польскія войскі з дапамогай літоўскіх і татарскіх атрадаў разбілі пад Грунвальдам знакамітае крыжацкае войска і выратавалі свае народы ад тэўтонскай акупацыі і асыміляцыі. Перамогшы ў гэтай бітве, беларускі народ ня толькі захаваў сваю незалежнасьць, але і сваю мову, культуру.

Мы добра ведаем незайздросны лёс прускай і цэлага шэрагу заходнеславянскіх моваў, якія былі зьнішчаны пасьля нямецкай акупацыі тых земляў, дзе спрадвеку жылі іх носьбіты.

Таварыства Беларускае Мовы не сумняваецца, што ў XXI стагодзьдзі незабыўная дата 15-га ліпеня ўвойдзе чырвоным радком ва ўсе беларускія календары і стане афіцыйным дзяржаўным сьвятам незалежнай, дэмакратычнай Беларусі.




Наша АНКЕТА:
На Вашу думку, хто павінен стаць наступным лідэрам БНФ?

Вінцук Вячорка ці Зянон Пазьняк?

Чакаем на вынікі апытаньня!..

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Сакрат ЯНОВІЧ (Беласточчына)

# «ВЕЛИКИЙ И МОГУЧИЙ РУССКИЙ ЯЗЫК...»



Гэтая пустая фраза стала папулярнай у Беларусі якраз за савецкім часам. У папярэднія эпохі пераважаў прэстыж пальшчызны як мовы "выкшталцоных". Палякі, аднак, не дадумаліся да такога самахвальства ды самаўзвышэньня, як расейцы. Яны, тая шляхта і мяшчане, ні трохі не адчувалі патрэбы дабівацца прызнаньня ад усходняе прастаты, самі набрыняўшы комплексам лепшасьці. Як акуратны чалавек не дабіваецца таго захапленьня ад п'янага сьмярдзюха...

"Великий и могучий..." уяўляе сабою эмацыянальную формулу менавіта комплексу горшасьці, якім спрадвеку ракатворна хварэюць (даволі ўслухацца ў інтанацыю вымаўленьня імі слова "пан"). Так званы "польскі комплекс" у расейцаў у нечым падобны на "комплекс пад панскасьці" ў кудлатага мужыка: ненавідзіць пана і адначасна хацеў-бы ён ім быць! У маю маладосьць гэта кідалася ў вочы ў адносінах непісьменных бацькоў да сваіх далікатнеючых дзяцей, што канчалі сярэднія і вышэйшыя школы — вымагалі панскіх паводзінаў ад дочак і сыноў і адкрыта злаваліся, калі нашчадак загаварыў на т. зв. "простай" (г. зн. беларускай) мове. Не забуду той момант, як аднойчы, вяртаючыся дамоў на вакацыі, ужо здалёку пачуў я радасны на ўсю вуліцу голас маёй маці — "Мой пан прыехаў!" Мне гэта быў шок, і яшчэ, можа, пару калегам... У маім доме і радні, да сьмерці старыхніхто з іх не выбачыў мне, што гавару і пішу я пабеларуску. Вось так, ні больш і ні менш: стаў беларусам супроць волі ўсіх! Народнай волі. Назвалі мяне: Сакрат Беларус (у пагардлівым тоне). Далі празыўку, вось.

Ведаю, што так ненавісна ня было ў міжваенныя гады. Тлумачыцца тое надзвычай ясна: вёска тады слаба кантактавала з цывілізацыяй дваццатага стагодзьдзя. Жыла ў натуральнай эканоміцы. Нават у пасьляваенньне я і мае равесьнікі хадзілі ў даматканым грубым адзеньні; у местачковых Крынках, ня кажучы пра зацюканую вяскаўню. На шчасьце, навука ў Беластоку была пакуль што бясплатная, гаспадыням вучнёўскай кватэры плацілі бацькі жаўтаватым салам, а я харчаваўся запасам цьвілых боханаў хлеба з хаты, бо на "крамны" ня меў грошай.

Шмат-хто з нашых сваякоў знайшоўся тым часам пад саветамі і ад іх потым я чуў, што яны там проста пухлі-галадалі. Галадалі і расейцы, куды страшней, таму і перліся саранчою ў Беларусь. Ратаваліся.

Менавіта ў гэтым усім трэба шукаць прычынаў русыфікацыі ды палянізацыі. У роўнасьці лёсу з расейцамі і ў тым, найперш, што беларусы ня мелі памяці пра свой **асобны** — лепшы! — быт. Таму летувісаў, латышоў, эстонцаў немагчыма было русыфікаваць (толькі вывезьці або разстраляць). Бо, хто каго меўся асыміляваць: галодны сытага? Нехта скажа: давялі да ручкі і прыбалтаў. Адкажу: так, але захавалася ў іх памяць пра тоўстую скібу з маслам і шынкаю. У беларусаў такой памяці ня было. У заходніх таксама, бо і адкуль.

Ангелец ці амэрыканец ня будзе падтыкаць сваю мову ў ролі "великой и могучей..." Не прыйдзе яму тое ў галаву. У ангельскай паэзіі цяжка, дарэчы, знайсьці хоць-бы адзін верш пра любоў да роднае мовы. Забаіцца аўтар сьмешнасьці. Западозраць такога ў махлярстве, бы нейкага камбінатара, што бяз меры славіць сам сваю сумленнасьць. Як прастытутку якую, з поўнай губою словаў пра каханьне.

Цяперашнім часам адбываецца нешта парадаксальнае: наўкола шумам шуміць ад гаворкі пра выратаваньне беларушчыны, а яе, беднай, усё менш і менш. Як даўней у Польшчы гаварылі праз усё васемнаццатае стагодзьдзе пра пагрозу ўпадку яе, пакуль, урэшце, з лёскатам упала...

Адкуль бярэцца ў расейцаў нахабная самахвальба? Ажно ў стылі "Россию умом не понять, аршином её не измерить..." І г. д. Гэта-ж чыстае вар'яцтва! Хто з такім народам захоча ўсур'ёз мець справу? Але аўтар тых словаў, паэт Цютчаў(?) так не лічыў. Ён — шавіняк над шавінякамі! — выказаў жаданую вышэйшасьць расейскага чалавека над усімі ў сьвеце. Узьнікае затым банальнае пытаньне: каго і над кім? Гэтай краіны, у якой ліквідавалі рабскую паншчыну тады толькі, калі заходні гаспадар ужо і забыўся пра тое дзіва дзікае. Краіны, якая — паводле новых дасьледваньняў гісторыкаў — столькі і ведае, каб браць пазыкі ад Захаду і ніколі іх не аддаваць (ад часоў Кацярыны II). "Хватать и не пущать!" — як Беларусь.

Гістарычная бяда Расеі ў тым, што яна жыла анэксіямі, а не ўнутраным разьвіцьцём. Свае праблемы спрабоўвала лагодзіць здабычаю, замест працавітасьцю. Замест награмаджваць уласны патэнцыял, яна разьлівалася на штораз новыя тэрыторыі. Ці магчыма сабе ўявіць амэрыканскі дабрабыт — ад Чыкага да Вогненнай Зямлі? Будзь Расея на месцы ЗША, даўно ўселася-б аж у Буэнас-Айрэсе. З тым трохі як з дагледжанай саджалкай, з якое ўзялі і спусьцілі ваду на вакольны луг... Буйныя рыбы выздыхалі; уцалела плотка ды акунькі.

**Расейская мова ня ёсьць моваю прагрэсу цывілізацыі.** Ёсьць, бы тая партугальская ў Мазамбіку, Анголе, Бразыліі. Або іспанская. Гэта значыць моваю бюракраты, прымусу. Таму яна сягала не далей бота салдата. Мова падкаляніяльнай адміністрацыі ды маскоўска-пецярбурскай культуры, іншай няма. Парасейску не прачытаеш пра новыя адкрыцьці, хіба пра тыя ўсяго, што ўкрадзена або куплена ў "імпэрыялістаў".

Беларусь прымусілі гаварыць парасейску, як калісьці Ірляндыю тэрорам паангельску. І чым гэта скончылася ангельцам?

Натура мовы як грамадзкай зьявы такая, што раз выведзеная з паўсюднага ўжытку яна назад не вяртаецца (адступленьнем ад правіла, пацьвярджаючым правіла, ёсьць Ізраіль). Ірляндзцы, вось вывучаюць сваю родную ў школах, разумеюць яе, але не гавораць на ёй. Ці так будзе з беларускай? **З ёю ўжо так!** У будучым расейцы могуць казаць, бы ангельцы пра сваю, што беларусы ўкралі ім мову, і гэта загучыць камплімэнтам... Як тут не ўкрасьці, калі свая, беларуская, заўсёды не найважная, другарадная.

Ірляндзкі варыянт у Беларусі? Не хачу дажыць моманту, калі пачую, як русыфікаваныя беларусы ўздымацьмуць вэрхал накшталт "Вон русских! Беларусь для белоруссов!!" Прэч з нахлебнікамі!

Хоць ніхто добра ня ведае, што такое нацыя і нацыянальнае пачуцьцё, але можна не сумнявацца, што ня мова ў ім галоўная і не асобна-нацыянальная культура. У гэтым мейсцы давайце адкажам, ці хто памёр ад недахопу культуры? А з недахопу ежы, хлеба? — ого, цэлыя плямёны і народы! **Нацыю стварае асобны лёс** (прыкладам тут не адны амэрыканцы). У выніку чаго і ўзьнікае свая ўлада, дзяржава. Перш Полацкая Зямля і Вялікае княства Літоўскае, а пасьля ўжо — беларусы. Спачатку Польскае Каралеўства, Палянія, а затым і палянікі-палякі (не раней, аднак, чым у палове трынаццатага стагодзьдзя, бо Харобры ў X ст. будаваў зусім ня Польшчу, а славянскую імпэрыю ад Кіева да Прагі і Эльбы).

Нацыянальная сьвядомасьць — гэта перш за ўсё сьвядомасьць уласна-асобнае гісторыі. На каталіцкай частцы Беласточчыны, яшчэ ў маю маладосьць ня ўмелі гаварыць папольску, але ня дай Бог было сказаць ім, што яны непалякі. Што беларусы! — морду набілі-б за тое! У іх беларускамоўныя мазгі ўвялі польскую гісторыю, і гэта вырашыла. У Савецкай Беларусі за сталінскім часам пачатковае навучаньне дзяцей адбывалася ўсюды на беларускай мове, але, вось, без беларускай гісторыі. Калі ласка, гавары сабе ты пабеларуску ды ведай, аднак, што ўзяўся і ты з Расеі. Сам потым зьдзівішся: а чаму я не гавару парасейску?! Мы-ж усе Расея!!! Беларусь — гэта губэрня, Западная Россия. Адсюль аналёгія: ірляндзкаму шавінізму зусім не перашкода, што ня ўмее паірляндзку, нават ня хоча ўмець. Пару гадамі назад меў я сутычку, прыкрую, з адным — нядурным на выгляд — ірляндзцам, які рэплікаваў мне рыхтык, бы наш беларус: ірляндзкая мова хай сабе будзе, казаў ён мне, але яна непрыдатная, неразьвітая, прымітыўная, во, ірляндзкія пісьменьнікі і тыя не карыстаюцца ёю (от, для прыкладу Джойс). Ягоны нацыяналізм пульсаваў крыўдаю да ангельцаў, ад якіх усе няшчасьці Ірляндыі. Падшыты прытым каталіцтвам у супраціве пратэстантызму. Ірляндзкія паўстаньні — гэта папраўдзе каталіцкія паўстаньні. Застанься Англія каталіцкай, і не было-б іх.

Ад беларускасьці ў Беларусі РБ адны галавешкі. Русыфікавана яе ў пажарным парадку. Настолькі мамантальна, што жывая яшчэ грамадзкая памяць беларускамоўя. На нашых вачах пайшла на дно Атлянтыда сялянства, гэтага натуральнага матачніка беларушчыны. Горад (места) як апора беларускаму слову перастаў існаваць даўным даўно. А культуру — ня толькі эканоміку — цягне дапераду менавіта горад, ня вёска. І што нам гэты горад нацягаў? Расейшчыну! На Беласточчыне — польшчыну. Вёска, як постфэўдальная структура асуджаная на зьнікненьне ў кожным варыяньце цывілізацыйнага разьвіцьця. Індустрыяльная **гарадызацыя** ня мусіла — аднак — адбыцца ў нас так гвалтоўна, настолькі раптоўна, і цалкам за кошт вёскі. На працягу аднаго пакаленьня (20 год). Як сёньня памятаю тое — фактычны эксодус, бежанства, бы тых альбанцаў з Косава... Столькі ўсяе розьніцы ў нас, што не пад карабінамі. У маёй роднай ваколіцы налічвалася пасьля вайны каля дваццаці школаў; цяперачы існуе ўсяго адна, у самым мястэчку. Штораз больш вёсак, у якіх жыве адзін-два чалавекі, рэнтысты. Палі зарастаюць бярэзьнікам, лесам. Я не дзіўлюся, бо прыдатнай зямлі тут мала, акрамя лапікаў у далінках. У славутай татарскай мясцовасьці Крушыняны — да вайны паўтары тысячы насельніцтва — жыве яшчэ пяцёх татарынаў; самы малады з іх мае семдзесят пяць гадоў. А ўсіх крушынянцаў у Крушынянах будзе два дзесяткі (ад тае паўтары тысячы). Вёска сядзіць у Беластоку. Які ў сорак шостым быў у пятнаццаць разоў меншы. Цывілізацыю поля і хлява зьмяняе цывілізацыя горада і лесу. Тэндэнцыя сусьветная.

Селянін у сутыкненьні з мешчанінам застаецца без шанцаў. Селянін не абеларусіць мешчаніна, ня той духоўна-культурны патэнцыял, а наадварот. Не здарылася-б таго, калі-б гарадызацыя адбывалася ў натуральных тэмпах, не ў настроі нейкай этнічнай чысткі. Знакамітай ілюстрацыяй гэтых працэсаў можа быць франкамоўная Бэльгія са сваймі прасьцяцкімі флямандамі, што паступова ўвайшлі ў "места", стварылі ўласнае мяшчанства, і ў рэзультаце двухадзінае і двухмоўнае каралеўства.

Вучоныя гісторыкі падзяляюць народы Эўропы на арыстакратычныя (напр. ангельцы), на плебэйскія (напр. чэхі) і на сялянскія (напр. фіны). Але механізм нацыянальнага разьвіцьця патэхнічнаму адназначны: дынаміка нацыі ў горадзе, не на хутарах. У вёсцы немагчымыя ўнівэрсытэты, выдавецтвы, масавыя дэманстрацыі, высокатыражныя газэты. І яшчэ адзін капітальны фактар: **палітычная патрэбнасьць існаваньня дадзенай нацыі.** Зацікаўленьне ёю і падтрымка ёй звонку, ад моцных суседзяў. Толькі Беларусь з Украінай аказаліся лішнімі палітычнай Эўропе ў 1918 годзе. Ці паўсталі-б прыбалтыйскія дзяржавы, калі-б не інтарэсы Бэрліна ў тых, некалі нямецкіх Інфлянтах? Або Польшча — без дапамогі Францыі? Беларускі патрыятызм точаць карэады палітычнай сірочасьці. Кажуць: БНР не выйшаў са стану эфэмэрыды, сымбалю замест рэальнай моцы. Ну добра, а калі-б стаяла тады пад Менскам ды Слуцкам не дзесяцітысячная армія беларусаў, але стотысячная, то нешта зьмянілася-б у лёсе Беларусі, зацiснутай у расейска-польскіх абцугох? Летувісам у 1920 г. хапіла пяцітысячнай сілы. Чаму? — мы ведаем. Як і ведаем, што беларусаў не выратавала-б і стотысячная.

Нацыянальны рух у сваёй клясычнай постаці не бывае без грамадзка пашыранай надзеі на замажнейшае ад яго жыцьцё. Ніхто ня пойдзе

пад кулі ў імя чагосьці горшага ад ужо маемага. Таму камунізм псыхалягічна і вычарпаўся, бо несусьветныя ахвяры ў яго абарону далі адваротны вынік. Айчына ня мае сэнсу, не даючы хлеба. Рэвалюцыі паказалі сябе як усенародныя ілюзыі. Заўсёды ўяўлялі яны сабою ўтопію. У гэтым значэньні ўзьнікла тэорыя "канца гісторыі" (застаецца мурашнік працы).

Лёс мовы ня можа быць незалежным ад лёсу ейных носьбітаў, карыстальнікаў. Іначай антычны Рым са сваёй латыньню трываў-бы вечна, плюючы зьверху на барбараў. Антычную Грэцыю туркі не пераўтварылі-б у племя пастухоў, якія сёньня не разумеюць мову Сакратаса і Плятона. Падобным чынам сталася з беларускамоўем і беларускай культурнасьцяй. Адступілася ў кніжныя сховы ды габінэты вучоных, у элітныя салёны. Дыямэтральна зьмянілася яе грамадзкая кваліфікацыя, у апошняе дзесяцігодзьдзе перастаўшы быць знакам мужыцтва, прымітыўнасьці, бо тое-ж мужыцтва ўхапілася за "панскія мовы" (калі ўжо хапацца яму, дык не за тое, што і так мае). Невыпадкова менская вуліца, натоўп, усприымае беларускую мову як нешта польскае або і антысавецкае. Прычынаў таго сто, як сказаў-бы Напалеон-карсыканец, але найважная менавіта сто першая: беларуская культура на нацыянальным узроўні ўзьнікла пад уплывам заходняй, не расейскай. Цераз польскае пасрэдніцтва. І ў сваіх наважытных кшталтах як каталіцкая, вось. Па той банальнай прычыне, што ўсенька адукаванае ў тагачаснай Беларусі малілася ў касьцёлах; у саламяных царкаўках уніяцкіх знаходзіўся "мужыцкі Бог". Панове мелі свайго, ня так запушчанага. "Польскай веры", пакінуўшы "рускую" цемнаце. Халоп хацеў-бы стацца каталікам, каб сесьці каля пана ў касьцёльнай лаве, але хто яго туды пусьціў-бы... Расейскі цар надта прыслужыўся акаталічваньню беларусцаў, ліквідуючы ўніяцтва, а не маючы сілы затаптаць каталіцтва. Скутак быў такі, напрыклад у Крынках нашых, што цэлымі вуліцамі рынуліся да ксяндза, які хутка філіяльны касьцёлік, яшчэ радзівілаўскі, пераўтварыў у парафіяльны і неўзабаве пабудаваў амаль кафэдральную аграмадзіну. Так белы цар палянізаваў Падляшша. Не каралі. Не. Што-ж, чарговы ідыятызм расейскага розуму.

Што гэта значыць у двухканфэсыйнай Беларусі? Два мільёны католікаў у ёй ня могуць датла русыфікавацца, па мэнтальных уяўленьнях. Расейская мова ў касьцёле, бы кпіна якая! Бы наступ праваслаўя. А польская — гучыць ужо экзатычна, ня так, як даўней, калі "вышкшталцоныя" местачкоўцы палякавалі ды панства ў двары. Хто цяпер палякуе ў Гародні ці Бярэсьці? Тыя, хто з таго палякаваньня хлеб есьць: ксёндз ды група актывістаў на варшаўскім утрыманьні. Іх не чуваць-не відаць на тратуарах, як калісьці на крынкаўскай прамэнадзе ў бок Грабшавага Лесу з рэастаранамі, танцамі-шманцамі, і наязджаючымі сюды куртызанамі прыварваўскай гадоўлі. Шторaз часьцей моляцца пабеларуску. Бачу ў гэтым гістарычную правідловасьць: каталіцкая ад калыскі нацыянальна-беларуская культура ў каталіцкім цяпер асяродзьдзі.

Што будзе з праваслаўнымі і патэнцыяльна-праваслаўнымі васьмі мільёнамі, у іх ліку з дзьвюма мільёнамі расейцаў ды падобных да іх? Бачым, што будзе. Этнонім "беларус" атоесаміцца з канфэсыйнай саманазвай "католік". Беларусы распадаюцца на дзьве нацыі як быццам: шчырых беларусаў і тоже-белоруссов, бы тыя сэрбы і харваты з адною моваю.

Тоже-белоруссов Расея ня прыме ў свае абдымкі. Ня той час і эпоха, калі аплачваліся тэрытарыяльныя анэксіі. Найраней уцямілі тое купецкія ангельцы, пакідаючы калёніі (перасталі даваць даход). Расеі ўзяць у свой бюджэт Беларусь раўназначнае гаспадарчаму самагубству! Пусьціць расейскі рубель, раўнаварты дваццацю пяцю за адзін даляр, у абшары беларускага рубля, у якім даляр каштуе паўмільёна, гэта трэба страціць рэшткі розуму, лёгкі. Нават, калі "Россию умом не понять..." Лукашэнка, сялянскі прэзыдэнт, плаціць усё-ж рэгулярна, штомесяц, а ў Расеі месяцамі і гадамі людзі не бачаць грошай за работу. Лукашэнкаўская інтэграцыя з Расеяй — гэта чысты фальклёр ва ўжытак постсавецкага тупога электарату, які статыстычна пераважае ў Беларусі. Нагадвае мне гэта ўтварэньне Насэрам Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі, з Егіпту і Сырыі. Гадоў трыццаць назад. Які-ж можа быць саюз мядзьведзя з зайцам?!

Найпершае пытаньне? У чым Беларусь карысная Расеі, акрамя стратэгічна-вайсковых разьлікаў у якасьці "беларускага калідора" ў Эўропу. У нічым, калі не лічыць павелічэньня на складах вырабаў на ўзроўні анахранічнай тэхналёгіі, якія невядома, куды падзець. А ў чым карысная Расея? У магчымым пашырэньні рынкаў збыту? Не, бо вопыт паказвае, што расейцы бяруць ды не плацяць, ня маюць і ня будуць мець чым. Затое Расея надта выгадная менскім калхозным уладам — яны ўсенькую сваю неўдалоту зваляць тады на яе, на Крэмль. Жыцьцё безупынна пагаршаецца, трэба шукаць вінаватых, і будзе вінаваты не Лукашэнка, а менавіта Расея. Лукашэнка — тыповы чалавек улады, et imperia, яму напляваць на хлеб краіне. Тым болей на яе беларускую мову і культуру. Ён не ніштожыць дзеля аргументу, што "белоруссы это такие как русские". Яму гэта патрэбна, не беларускай бацькаўшчыне. Найлепей быць прэзыдэнтам чагосьці вялікага, з чым лічацца ў сьвеце; не маленькай Беларусі, дзесяцімільённай. У Кітай ён не праб'ецца, а вось у Маскву, чаму не рызыкнуць, "ведь мы фактически русские". Што відаць і чуваць. Ён не бярэ ў галаву той жахлівы варыянт, што "белоруссы" могуць у перспэктыве зьненавідзець "русских", у стылі таго-ж ірляндзкага аналягу.

Ад "великого и могучего" беларусы не адкінуцца, ужо запозна, пагадавалі ў ягоным духу цэлыя пакаленьні, але сфармуецца нешта такое, што не зьдзівіць Эўропу: расейскафонская дзяржава з антырасейскай арыентацыяй, з істотным беларускафонскім кампанэнтам, асабліва ў заходніх акругах (кшталтам флямандзкага захаду Бэльгіі). Справа ў тым, што Беларусь наагул дуальная, усходне-заходняя. У сваім мінулым яна прайшла ўсе пэрыяды культурнага разьвіцьця Эўропы, чаго ня зьведала Расея. Як без Украіны не вырасла-б Расейская Імпэрыя, так без Беларусі не зарунела-б расейская культура. Літаратура (Сітняновіч-Полацкі). Філязофія (Белабоцкі). Прыкладаў мноства, але даволі сказаць, што кнігадрукаваньне ў Масковіі пачалося праз стагодзьдзе "з гакам" пазьней, чым у нашай Літве, а першы ўнівэрсытэт — віленскую акадэмію — мы мелі амаль на два стагодзьдзі раней. Тым, хто любіць думаць, гэта тлумачыць усё. Маскоўскія "бацюшкі" ня ўмелі пісаць і чытаць, служылі ў цэрквах "па памяці". Кніг ня было, друк лічыўся дыябальскай выдумкай, а рукапіс каштаваў добрыя тры вёскі з сямейнымі халопамі.

Беларуская мова ў Беларусі і створаная на яе базе нацыянальная культура, перш за ўсё літаратура пахне Захадам, б'е ў нос homo sovieticus'а, што этымалягічна цалкам зразумелае. Без гэткай канстатацыі нам няўцямная тая лёгкасьць, з якою засеў у Беларусі "великий и могучий". Праваслаўная Беларусь — па сацыяльных прычынах — надта маргінальна заўдзельнічала ў наважытным адраджэньні; куды ні кінь, усе каталікі, нават постсавецкія вярхі ў фэніксавай Рэспубліцы Беларусь (Шушкевіч, Кебіч). І гэта ў дзяржаве, у якой рыма-католікаў адзін з пяці грамадзянаў. Нельга таму не дацэньваць традыцыі.

Беларускасьць скурчыцца да каталіцтва? Абсалютна не, хоць жадаюць таго маскоўскія футуролягі, плянуючы беларускую аўтаномію на моцна касьцельнай гарадзеншчыне ў рамках будучай Расейскай дзяржавы па Буг. Каб не паўтарацца, дадам, што інкарпарацыя Беларусі пагражае распадам тае-ж Дзяржавы: захочуць скінуць з сябе маскоўскі хамут — Татарстан (5 мільёнаў), нафтавая Башкірыя, Саха-Якутыя з капальнямі дыямэнтаў і золата, Калмыкія, ня кажучы пра Чачэнію, што ўселася на нафтатрубах і бунтуе Каўказ. На Крамлі не ўсе тупалобыя "Ваньки-встаньки"; Шохін некалі падлічыў, што "беларускі набытак" каштаваў-бы Расею прыблізна сто мільярдаў даляраў, якіх няма і ня будзе. Узяць Беларусь — гэта ўзяць адказнасьць за яе, эканамічную, у супрацiўным выпадку дружба завершыцца варожасьцю. Хоць, падумаецца, у сэньсе чыста нацыянальным расейскія ўлады больш шанавалі-б беларускую культуру, чымся тутэйшыя родныя прыдуркі... Найзаядлымі ворагамі беларускага слова ёсьць, на жаль, самі беларусы. Абрыдла тлумачыць, чаму.

Падумаецца пры гэтым і пра такое: клятыя беды беларушчыны вырашаць... могілкі. Прыйдуць пакаленьні маладых, другое-трэйцяе, якім назваца беларусам не будзе геразмам баязьліўца "спад саламянае страхі", калхозьніка, які баіцца, каб не турнулі яго назад у той рай. Беларуская мова не ірляндзкая, падобная да акаляючых, і ў тым яе шанц на адраджэньне, недругараднае жыцьцё, г. зн. неабавязковае. Што чакае "великого и могучего"? Проста нармальнасьць, без паўрэлігійных услаўленьняў. Без пахвалы галоты, якая ня мае чым лепшым, канкрэтным хваліцца.

Беларускую мову муміфікавалі ў літургічнасьць. Бывае, сам Лукашэнка адправіць на ёй свой палітычны малебень (апошні з нагоды 3 ліпеня г. г.). Літургічнасьць яе палягае ў "нізавым пажары", г. зн. палiквідавана беларускамоўныя школы, пасеяна страх паслужыцца ёю ў адміністрацыі, выведзена з публічнага ўжытку, але — калі ласка — прэзыдэнт выступае пабеларуску і не пацее, не палохаецца... Калі памятаць, што маральная сутнасьць бальшавізму ў нясьціханым махлярстве (Шаляпін: они лгут даже без нужды в этом), то будынак Беларусі імкнуцца пераўтварыць так, каб дах захаваць беларускім дзеля прыстойнага выгляду перад чужымі, а фундамэнты павінны стацца "истинно русскими".

Беларускую мову трактуюць як інструмэнт дывэрсіі навонкі, усяляк затоптваючы яе ў сябе. Дзеля чаго, на прамілы Бог? Хлеба вам ад таго прыбудзе? Шчасьця больш? Хто вас за гэта азалоціць, бо не Расея, якая сама ня мае чаго есьці.

**Post Scriptum.**

Некалькі прасьцюсенькіх пытаньняў у адрас пахалопскую заядлага расейскага шавіняка. Чаму гэты "великий и могучий" ня быў у стане стварыць поўную навуковую тэрміналёгію, замест пераважна лацінскай і нямецкай на расейскі лад. Нават назвы месяцаў у іх несвае, або і тая-ж "луна", зусім не "истинно-русская", а лаціна-італьянская. Пушкін несумненна быў вялікім паэтам, але не зразумець яго, ня ведаючы францускай літаратуры. Сам ён зрэшты перш загаварыў пафранцуску, бо за расейшчыну маці лупіла яго лозамі, каб не прастанародзіўся. Што дакладна апісана ягоным біёграфам, Тынянавым. Дарэчы, даволі пачытаць "Войну и мир" Талстога, дзе значная частка дыялёгаў францускамоўная. Знакаміты Чаадаеў пісаў толькі пафранцуску. На двары цара Аляксандра І парасейску разумеў шэф яго міністраў і яшчэ нехта... Ламаносаў наракаў, што на ўсю Расейскую Акадэмію ён адзін умее парасейску; наўкола нямецкая мова, латынь. Пётр Вялікі ўвёў у расейскі алфавіт шэраг лацінскіх літараў, а яго сястра пісала польскія вершы і сам ён чытаў ды пісаў беспамылкова папольску. Ня дзіва, калі ведаць пра тое, што польская літаратура дасягнула свайго эўрапейскага кантэксту ўжо ў шаснаццатым стагодзьдзі, а расейская праз тры стагодзьдзі пасьля, у рамантызм (Пушкін, Лермантаў, Гогаль). Расейскае высока мастацкае слова зайснавала, дзякуючы менавіта Пушкіну, які ўсё жыцьцё гаварыў, калі парасейску, дык з францускім акцэнтам (першыя свае вершыкі пісаў-жа на мове Мальера). Імператар Мікалай І жартаваў, што парасейску ён размаўляе толькі са сваім канём і з салдатамі (ад нямецкага "зольдатэн"). Амаль увесь тэхнічны слоўнік у Расеі — гэта адаптацыя нямецкага (палякі хоць перакладалі на сваю мову). Польскі слоўнік хіміі стварыў беларусапаходжанец, граф Хадкевіч, у пачатку XIX ст. Што стварылі тады расейцы, акрамя "Истории Российского Государства", напоўненай, зрэшты, выдумкамі, фальсыфікатамі. Славуты слоўнік, Даля стварыў расейскі немец, што не бяда, бо добры. У напалеонаўскую кампанію 1812 г. большасьць загінуўшых расейскіх афіцэраў наклала галавою зусім не ў бітвах, а ад уласных салдатаў, якія не заўсёды, асабліва ноччу, маглі адрозьніць іх ад французаў (афіцэрня гідзілася расейскай моваю, штабныя пляны складаліся пафранцуску, рапарты перакладаліся на расейскую мову палкавымі пісарамі). З польскім лекарам я паразумеюся папольску, а з расейскім — ведаючы толькі расейскую мову — у нічым не згаваруся, бо ўся мэдычная тэрміналёгія лацінская "рускімі літарамі". Усе тыя "тубэркулёзы", "інфаркты", і г. д. Няўжо "великий и могучий" ня змог назваць парасейску

*(Заканчэнне на 4-й стар.)*

 



вуты адвакат Фёдар Плявака, першы консул Расіі ў Японіі; аўтар першага японска-расійскага слоўніка Іосіф Гашкевіч; першы расійскі санскрытолаг, стваральнік санскрыта-расійскага слоўніка Каятан Касовіч; "бацька якуцкай літаратуры" і ўкладальнік першага слоўніка якуцкай мовы Эдвард Пякарскі; геолаг, даследчык Сібіры Ян Чэрскі, чыім імем названа горная сістэма і інш. геаграфічныя аб'екты; вучоны-фізіёлаг Браніслаў Вярыга; вядомая лекарка Саламея Русецкая; матэматык Васіль Ермакоў; фізік Аляксандр Садоўскі; хімік Аляксандр Вярыга; радыехімік Васіль Барадоўскі; інжынеры, будаўнікі портаў Рыга і Кранштат Ян Багінскі і Язэп Зарэцкі; Валянцін Капцюг — старшыня Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук; Андрэй Трафімук, геолаг, дырэктар Інстытута геалогіі Сібірскага аддзялення РАН; фізікі Якаў Зяльдовіч і Іван Артабалеўскі.

З Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці паходзіў вядомы дзяржаўны дзеяч савецкага часу, былы міністр замежных спраў Андрэй Грамыка. Выхадцамі з Беларусі былі вядомыя военачальнікі — Іван Якубоўскі, Аляксей Антонаў, Васіль Сакалоўскі і многія іншыя.

З беларусаў па паходжанні — цэлая плеяда расійскіх літаратараў: Фёдар Дастаеўскі, Дзмітрый Пісараў, Фёдар Глінка, Тадэвуш (Фадзей) Булгарын, Аляксандр Грыбаедаў (з Грыбоўскіх), Аляксандр Грын (з Грынеўскіх), а таксама паэт Аляксандр Твардоўскі (бацькі яго з Бабруйскага павета), Яўген Еўтушэнка (бацькі з в. Хамічы на Гомельшчыне), Яраслаў Смелякоў, Юры Алеша, Уладзімір Высоцкі (яго продкі з мяшчанскай слабады ў Маскве, заселенай з XVII стагоддзя беларусамі).

**Культурныя набыткі Беларусі маюць вялікую значнасць не толькі для нашага народу, яны з'яўляюцца часткай сусветнай культуры. Які ж высокі і больш магутны ўзлёт духоўнасці магла б даць нацыя беларусаў у спрыяльных умовах развіцця?!**

### БЕЛАРУСЬ НА МЯЖЫ ТЫСЯЧАГОДДЗЯЎ

Гістарычны лёс не быў спрыяльным для беларускага народа. Але ён выжыў, прайшоў праз усе выпрабаванні, не згубіў сябе, не стаў жорсткім і зняверaным. Наадварот, шматлікія беды навучылі беларусаў шанаваць само жыццё і агульначалавечыя каштоўнасці. Беларускі народ захаваў моцны жыццёвы патэнцыял, незвычайную здольнасць выжываць у самых жорсткіх умовах існавання, адраджацца да новага жыцця ў самых безнадзейных сітуацыях.

На мяжы тысячагоддзяў Беларусь ідзе па шляху адраджэння і ніякім сілам не ўдасца яго спыніць. Наш народ з вялікімі цяжкасцямі пазбаўляецца ад рэцыдываў бальшавізму і залежнасці. Расце новае пакаленне беларусаў, што не зведала скалечанага савецкага выхавання. Яно нясе ў сабе вобраз новай Беларусі, што зойме належачае ёй і годнае месца ў Еўропе.

Ворагам беларушчыны хочацца сёння прынізіць нашу нацыянальную годнасць, пасеяць нявер'е ў здольнасць краіны да самастойнага жыцця. Але ніхто не здолее ўжо вярнуць нас у змрочнае мінулае паднявольных часоў. Беларусы маюць усе падставы верыць у лепшую будучыню і магчымасць адбудаваць сваю Бацькаўшчыну як самастойную цывілізаваную дзяржаву.

З больш як чатырох дзесяткаў еўрапейскіх краінаў, Беларусь па асноўных паказчыках (тэрыторыя, насельніцтва, прыродныя рэсурсы) уваходзіць у першую палову. Багатыя яе лясныя, водныя, сельскагаспадарчыя рэсурсы. Беларусь мае выдатныя прыродныя ландшафты, запаведнікі, радовішчы карысных выкапняў — буйнейшыя ў свеце залежы калійных і каменных соляў, вялікія запасы пітной і мінеральнай вады, больш за 60 радовішчаў нафты, вугалю, а таксама гаручыя сланцы, жалезныя руды будаўнічыя матэрыялы і інш.

Наша багацце і ва унікальным геаграфічным становішчы краіны ў цэнтры Еўропы. Навукоўцамі даказана — геаграфічны цэнтр кантынентальнай Еўропы знаходзіцца каля вёскі Чыжаха Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці. Праз нашу краіну праходзяць многія транспартныя магістралі паміж Захадам і Усходам. Беларусь мае развітую індустрыяльную базу, высокі навуковы патэнцыял, адукаваныя кадры. Вытворчыя сілы беларускага народу невычарпальныя.

Тэрыторыя Беларусі — 207.6 тыс. кв.км. На кожнага жыхара Беларусі прыпадае 2 га зямлі, з якіх 0,7 га ворнай, а гэта сведчыць пра тое, што народ наш можа сам сябе пракарміць.

Насельніцтва краіны складае больш за 10 млн. чалавек. Па гэтым паказчыку мы стаім побач з такімі еўрапейскімі краінамі, як Венгрыя, Партугалія, Чэхія, Грэцыя, Бельгія. Ва ўсе часы наша Радзіма несла вялікія страты чалавечага патэнцыялу. Калі б не гэты трагічны аспект нашай гісторыі, Беларусь сёння, па падліках навукоўцаў, мела б не менш як 30-мільённае насельніцтва. Пра нацыянальны склад жыхароў дзяржавы сведчаць наступныя лічбы паводле перапісу 1989 г.: тытульная нацыя — беларусы — 77,8%, рускія — 13,2%, палякі — 4,1%, украінцы — 2,9%, габрэі — 1,1%, іншыя — 0,9%.

Такім чынам, Беларусь не толькі па назве, а і па сутнасці з'яўляецца краінаю беларусаў. Мы стварылі, пабудавалі яе і хочам быць у ёй прыветнымі гаспадарамі для ўсіх нацыянальнасцяў, што вякамі жывуць побач з намі і падзяляюць усе цяжкасці нашага агульнага лёсу.

На жаль, сёння ў нашай краіне яшчэ прадаўжае захоўвацца сітуацыя, калі ў падтрымцы і спрыяльных умовах развіцця мае патрэбу найперш сама карэнная нацыя. У выніку палітыкі дэнацыяналізацыі, якая праводзілася раней і прадаўжаецца сёння, родную мову беларусаў амаль паўсюдна замяніла расійская мова. Ліквідуецца сістэма нацыянальнай адукацыі, школьніцтва, звужаецца нацыянальнае кнігадрукаванне, беларускае аблічча страцілі тэлебачанне і радыё. Гэтым знішчальным працэсам процістаяць нацыянальна свядомыя беларусы, і ў першую чаргу — нацыянальная інтэлігенцыя. Іх змаганне не можа не прынесці станоўчых вынікаў, бо справа гэта святая.

З усяго сказанага бачна, што наша Бацькаўшчына Беларусь валодае дастатковым эканамічным патэнцыялам, чалавечымі рэсурсамі, каб у новым тысячагоддзі ўпэўнена ісці па шляху самастойнай дзяржавы.

Нашу самастойнасць яшчэ патрэбна замацаваць, не дапусціць страты дзяржаўнай незалежнасці, над якою цяпер навісла рэальная пагроза.

Гісторыя дала нам шанц адрадзіцца пасля двухсотгадовай нявbooлі. Толькі ад нас залежыць, ці скарыстаем мы гэты Боскі дар дзеля пабудовы лепшай будучыні для нашых дзяцей. Кожнаму з нас неабходна ўсвядоміць, што мы адказныя за далейшы лёс перад сваімі продкамі і перад Богам, які даў нам нашу цудоўную зямлю.

Мы не бязродныя, мы не перакаці-поле. За намі — вялікі гістарычны шлях, больш як тысячагадовая дзяржаўнасць, нашы гераічныя продкі, нашы страты і слёзы, нашы здабыткі і дасягненні. Усё гэта дае беларускаму народу права, дае яму моц і сілу адстойваць і будаваць сваю беларускую дзяржаву.

Толькі пры перамозе над манкуртамі і калабарантамі мы будзем "людзьмі звацца", як сказаў наш вялікі Янка Купала. Толькі пры гэтым мы будзем роўнымі сярод усіх народаў свету. Другога шляху ў новае тысячагоддзе няма!

**Абаронім дзяржаўную незалежнасць Беларусі!**

**Адродзім нацыянальную культуру, свядомасць, родную мову беларусаў і ўсіх народаў, што жывуць у нашай краіне!**

**Абяром шлях да пабудовы цывілізаванага дэмакратычнага ладу ў краіне са свабоднай эканомікай і поўным забеспячэннем правоў грамадзян!**

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

# "Перш думай пра Радзіму, а пасля пра сябе"

"Наша Слова"

...Чытаю беларускую прэсу, уважліва сачу за падзеямі ў Беларусі. Чым далей, тым больш пустэча і расчараванне. Што ж такое інтэлігенцыя? "Работнікі разумовай працы, якія маюць адукацыю, спецыяльныя веды ў розных галінах навукі, тэхнікі і культуры" слоўнік С.Ажэгава.

Выхаваная на класіцы, для мяне інтэлігенцыя, яе ідэалы ў Тургенева, Чарнышэўскага, Дастаеўскага. Але гэта быў другі час, будавалі іншае жыццё. У пачатку 90-х гадоў я сама была сведкам і прымала актыўны ўдзел – у адраджэнні Летувы. Пачалося адраджэнне з "Саюдзіса", які стварылі невялікая група інтэлігенцыі, потым ён пераўтварыўся ў народны, арганізоўваў шэсці, шматтысячныя мітынгі. Ён быў лідарам і вёў народ. Тады летувісы не разрозніваллі, хто якіх поглядаў, хто кім працуе, тым больш, хто ў якой партыі. Для летувісаў галоўнае – вольная незалежная Летува. Яны аб'ядналіся і перамаглі.

Адначасова з "Саюдзісамі" у Летуве, у Беларусі стварыўся "Беларускі Народны Фронт" (БНФ).

У 1989 годзе ў Вільні прайшоў першы з'езд. У пачатку 90-х гадоў і ў Беларусі пачалося нацыянальнае адраджэнне. І тады ж "пасыпалася" інтэлігенцыя з Беларусі ў другія краіны, тады, дзе лепш. Хто ажаніўся, хто зрабіў у час кватэрны абмен, тады з Летувы, як і з другіх краін Балтыі "уцякалі" вайскоўцы савецкія, ведаючы, што іх чакае ў Балтыйскіх краінах у будучыні. На Вільню можна было абмяняць любую кватэру, нават з правінцыі. Што і зрабілі практычныя беларускія інтэлігенты. І цяпер з другіх краін (можа вялікае бачыцца на адлегласці, як сказаў паэт) удалечыні ад Беларусі, ад народа, вучаць, як жыць. Радасна, што з'явіліся маладыя палітыкі, вырасла новая генерацыя, менш сталі баяцца, горш ужо не будзе. Столькі розных партый, згуртаванняў дзяржаўных і недзяржаўных і ўсе разрозненыя, мала супольнага. Пад час развалу Савецкага Саюза ў Беларусь, хлынула хваля вайскоўцаў з краін Балтыі, з Заходняй Еўропы, якія займаюць кіраўнічыя пасады, праводзяць рэферэндумы – патрэбна ці не беларуская мова беларусам. Таму і маем такія вынікі. Прыехала з Бярозаўкі дачка маіх знаёмых з сям'ёй. Распавядала пра цяжкае жыццё ў Беларусі, мізэрныя заробкі (цяжкое яно ўсюды) і дадала, што палітыкай не займаецца і не цікавіцца. І так развважаюць медыкі з вышэйшай адукацыяй. Разумеючы, што крах эканомікі – вынік збядненне народа. Пасіўныя адносіны, маўчанне, цярпенне – гэта таксама палітыка.

Неяк у Менску патэлефанавала пісьменіцы, падняла трубку дачка і ні слова па-беларуску. Такое расчараванне, лепш не тэлефанавала б. Калі сваму ўласнаму дзіцяці не прывіць любоў да роднай мовы, для каго ж тады Вы пішаце кніжкі на беларускай мове! Недалёкае мінулае – змаганне за Дом літаратараў, яскравы прыклад, калі з больш пяцісот беларускіх пісьменнікаў прыходзіла на пікет трыццаць сем і менш. Каментарыі не патрэбныя. У адзінай беларускай элітарнай газеце чытаю нататку беларускага пісьменніка, які да гэтага часу шкадуе, што не паспеў у 1991 годзе пераехаць у Вільню. Вось такія сумныя прыклады, і іх можна было б праводзіць бясконца. Таму такі вынік прэзідэнтскіх выбараў 1994 г. Нездарма Беларусь называюць "камуністычным расаднікам", шмат расейскіх адстаўнікоў, большасць з гэтых людзей сумуюць па безпаваротна прайшоўшай маладосці, упэўненыя: "Раней было лепш", калі жылі разам у адзінай, вялікай, магутнай, камуністычнай. Праўда, частка ярых камуністаў перарабілася ў антыкамуністаў. Гэта не страшна, калі неагрэсіўна. Мой любімы пісьменнік Сяргей Даўматаў заўважыў, што пасля камуністаў ён больш за ўсё не пераносіць антыкамуністаў. Гэта было сказана, калі камуністы былі пры ўладзе. Для мяне самыя горшыя "чалавекі", якія нічуць не змяніліся ўнутры, пераўтвараюцца з камуністаў у антыкамуністаў, з ярых атэістаў – у "прыкладных" вернікаў і г.д., прычым, запэўніваюць, што былі такімі заўсёды. Так, былі прыстасаванцамі, не выбіраючымі сродкаў. Мяне цікавіць і хвалюе сучасная і бліжэйшая будучыня. Ужо даўно пара сказаць "не" духоўным гвалтоўнікам. Рана ці позна давядзецца сказаць "хопіць". Так больш жыць нельга. А ў які момант вы скажаце "хопіць" залежыць ад вас, вашай актыўнасці кожнага. Будучыня залежыць не ад таго, з якімі каруначкамі надзець кашулю, а ад гатоўнасці яе надзець. Сапраўднай інтэлігенцыі, якая жадала шчасця народу былі адзінкі на пачатку стагоддзя, адзінкі і зараз, для якіх кірунак дзейнасці – паляпшаць жыццё народа сёння. Яны робяць вялікую справу, іх меншасць, таму і бяруць агонь на сябе за большасць. За імі будучыня.

*Леакадзія Мілаш, Вільня.*



## Кіраўнікі цэнтральных банкаў Беларусі і Расіі заявілі аб тым, што адзінай валютай саюзнай дзяржавы будзе расійскі рубель

Валютай саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі павінен стаць расійскі рубель. Аб гэтым заявілі кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі Пётр Пракаповіч і намеснік старшыні Цэнтральнага банка Расіі Алег Мажайскаў, выступаючы на пасяджэнні Выканкама Саюза Беларусі і Расіі.

Яны паведамілі, што выпрацавана агульная канцэпцыя па пытаннях увядзення адзінай валюты Саюза Расіі і Беларусі, а таксама стварэння адзінага эмісійнага цэнтра. Што да тэрмінаў увядзення адзінай валюты, то, па заяве банкіраў, яна будзе ўводзіцца паэтапна, пачынаючы з 1999 года па 2008-ы.

Падводзячы вынікі абмеркавання гэтага пытання, прэм'ер-міністр Расіі С.Сцяпашын сказаў, што канцэпцыю ў цэлым можна адобрыць, аднак неабходна ўзгадніць яшчэ некаторыя пазіцыі, для чаго спатрэбіцца месяц. Пасля гэтага на працягу месяца цэнтральныя банкі Расіі і Беларусі павінны канчаткова ўзгадніць як пытанне ўвядзення адзінай валюты, гэтаксама і пытанне стварэння адзінага эмісійнага цэнтра.

**Максім ЦІТОЎ, БелаПАН.**

## Навошта нам на шыю эканамічная пятля?

Уваход Беларусі ў расійскую рублёвую зону — гэта ліквідацыя ўласнай фінансавай сістэмы і страта незалежнасці. Наша краіна стане звычайнай расійскай вобласцю, хоць і са сваім сцягам.

Падобныя спробы прадпрымаліся яшчэ пры Кебічу. Тады вядучыя эканамісты Беларусі папярэджвалі, што без уласных грошай немагчыма будаваць сваю краіну. І сапраўды, пра якую незалежнасць можна весці гаворку, калі ты фінансава залежыш ад "старэйшага брата". Уявіце, жывуць два браты ў вёсцы, кожны мае свой дом, гаспадарку, але малодшы ўсе заробкі, ураджай аддае старэйшаму і ўжо той выдзяляе яму прадукты і грошы, колькі палічыць патрэбным. Дзе вы бачылі такое? Нават простыя вясковыя людзі бачаць абсурднасць падобнага жыцця. Чаму кіраўнікі нашай дзяржавы не могуць ці не хочуць бачыць абсурднасць такой зацеі? Што іх падштурхоўвае на такі непрадуманы ўчынак?

Адказ на гэтыя пытанні можна знайсці ў каментарыях расійскіх палітыкаў.

Не так даўно на тэму аб'яднання Расіі і Беларусі дзяліўся сваімі думкамі вядомы палітык Шохін. Ён прама заявіў: трэба ажыццявіць эканамічнае аб'яднанне, найперш — грашовых сістэм. Пасля гэтага ўжо ніякага раз'яднання не можа быць, нават калі да ўлады ў Беларусі прыдуць нацыянальна свядомыя лідэры і захочуць будаваць сваю дзяржаву, дык у іх ужо нічога не атрымаецца.

Невыпадкова і прэм'ер-міністр Расіі Сцяпашын увесь час гаворыць аб эканамічным аб'яднанні.

Другі вядомы расійскі палітык Яўлінскі даў у мінулую нядзелю інтэрв'ю аглядальніку расійскага тэлебачання Сванідзе, у якім пераканаўча абгрунтаваў, што падобнае аб'яднанне не прынясе палёгкі ні беларусам, ні расіянам, а толькі павялічыць агульны "эканамічны бардак". Яно патрэбна толькі двум палітыкам — Ельцыну, каб і далей застацца пры ўладзе, і Лукашэнку, паўнамоцтвы якога заканчваюцца ў другой палове ліпеня. Яўлінскі перасцярог расіян ад магчымых цяжкіх наступстваў, якія могуць узнікнуць пасля ліквідацыі дзяржаўнасці Беларусі. Бо не ўсе беларусы хочуць у Расію, многія рашуча выступаюць супраць, што можа прывесці да новай Чачні.

Цвярозае папярэджанне! Магчыма, пагэтаму Масква і не спяшаецца да палітычнага аб'яднання, тым болей што легітымнасць беларускага прэзідэнта заканчваецца. І таму яна лічыць найлепшым зацягваць на шыі Беларусі эканамічную пятлю.

**Алесь ДРАБЧУК.**

 

## Беларуская нацыянальная ідэя — наша другая рэлігія

У прэзідэнцкіх кулуарах нарэшце зразумелі тое, што без беларускай нацыянальнай ідэі далейшы курс краіны — гэта паступовае разбурэнне грамадства і нацыі, а значыць, і дзяржавы — Рэспублікі Беларусь. Упэўнены, што зусім хутка станучь зноў дзяржсімволікай белых русаў герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг. Гэта — пытанне часу.

## Славянскі свет стварыць — не поле перайсці!

Хто хоча стварыць маналітны славянскі свет, павінен у першую чаргу паважаць мову, культуру і гісторыю ўсіх славянскіх народаў. Як сведчаць факты, вялікадзяржаўныя амбіцыі шмат якіх палітыкаў грэбуюць законамі дыялектыкі. Таму пакуль гэтыя пачварныя з'явы існуюць, ні пра якую славянскую еднасць зараз не можа быць і гаворкі.

## Такі непарушны закон грамадства

З тых грамадзянаў, у якіх адсутнічае нацыянальны інстынкт, як правіла, круцяць любыя вяроўкі, ці, як з таго пластыліну, лепяць любыя фігуркі, цацкі. Такі вось непарушны закон грамадства.

## Жыццё — гэта барацьба...

Толькі ў зацятай барацьбе здабудзеш ты, беларус, права сваё на гонар і годнасць. Толькі беларуская нацыянальная ідэя дасць табе, змагар, тыя кіруючыя сілы і моц духа, без якіх немагчыма перамагчы ворагаў беларушчыны на ўсіх франтах.

## Найвялікшы здабытак — мець сваё месца пад сонцам

Абсалютнай незалежнасці няма і быць не можа. Ёсць толькі Беларусь, герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг ды няспынная барацьба, змаганне за сваё месца пад сонцам, за гонар і годнасць, за нацыянальную ідэю...

## За намі — багатая гісторыя

Ворагам беларушчыны ніколі не перамагчы нацыянальнай ідэі белых русаў! За намі — багатая гісторыя і вялікія справы нашых герaічных продкаў. Жыве "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг! Жыве Беларусь!

**Алесь ШУСТОЎСКІ,**
**жыхар г.Барысава.**




**Што там, на Случчыне?**

## Ураган з градавымі "зарадамі" абрушыўся днямі на ўсходнія абшары Слуцкага раёна

Вецер, хуткасць якога дасягала 25—30 метраў у хвіліну, зрываў з дахаў дамоў і фермаў шыфер, рваў правады, валіў дрэвы. Найбольш пацярпелі вёскі на тэрыторыі Амговіцкага сельсавета, дзе разбурана больш як 70 жылых дамоў, частка грамадскіх пабудоў. Ад шквальнага ліўню і граду нябачанага нават старажыламі "калібра" на падворках калгаснікаў амаль поўнасцю высечаны пасевы бульбы і агародніны.

Пацярпелі збожжавыя і іншыя культуры на калгасных палетках.

## І асянілі крыжам святым сірот-немаўлят

Па запрашэнні загадчыцы Слуцкага Дома дзіцяці Л.А.Кісялёвай сюды наведаліся свяшчэннаслужыцелі са Свята-Міхайлаўскага сабора на чале з протаіерэем айцом Міхаілам Вейгам для здзяйснення таінства Хрышчэння над дзецьмі, ад якіх пасля нараджэння адцураліся маці, або чые бацькі ў судовым парадку былі пазбаўлены правоў над немаўлятамі з-за сваіх амаральных паводзінаў.

Благадаці Хрышчэння ўдастоіліся 28 хлопчыкаў і дзяўчынак ва ўзросце да трох гадоў. У таінстве абрада, у прысутнасці ўсіх работнікаў дзіцячай установы, прыняў удзел царкоўны хор, які выканаў богаслужбовыяпеснапенні.

Гэта — не першае наведванне дзіцячай установы свяшчэнаслужыцелямі храма, над якой яны трымаюць патранаж, у спадзяванні, што з іх дапамогай з забытых бацькамі сірот вырастуць сумленныя, здаровыя целам і душой людзі.

## На думку кіраўніка Human Rights Watch Джанатана Фэнтана, Беларусь з'яўляецца праблемным рэгіёнам у выкананні правоў і свабод чалавека

У Рэспубліцы Беларусь не выконваюцца практычна ўсе правы і свабоды чалавека, з году ў год пагаршаецца эканамічная сітуацыя, што выглядае рэзкім кантрастам у параўнанні з іншымі рэгіёнамі. Такі пункт гледжання выказаў старшыня савета дырэктараў Міжнароднай праваабарончай арганізацыі Human Rights Watch (Нью-Йорк) Джанатан Фэнтан, выступаючы 15 ліпеня ў Мінску ў канферэнц-зале гасцініцы "Планета" на прэзентацыі 3-й (ліпень 1999 г.) справаздачы гэтай арганізацыі па Беларусі, прысвечанай парушэнням свабод у сферы адукацыі і навуковых даследаванняў. Як заявіў спадар Фэнтан, тры справаздачы Human Rights Watch (HRW) па Беларусі з'яўляюцца асуджэннем антыдэмакратычных метадаў, што практыкуюцца рэжымам Лукашэнкі, які вядзе сістэматычны наступ на дэмакратыю, у выніку чаго Беларусь стала "астраўком аўтакратыі ў моры дэмакратычных свабод", "з эканомікай, якая разбураецца", якая не можа атрымаць замежную дапамогу з-за сітуацыі з правамі чалавека. На думку прэзідэнта HRW, які наведаў Беларусь два гады таму, сёння сітуацыя тут пагоршылася — як у эканоміцы, так і з выкананнем правоў чалавека. Аб пагаршэнні агульнага становішча, як лічыць спадар Фэнтан, сведчыць і тое, што два гады таму дэлегацыя HRW была прынята кіруючымі работнікамі некалькіх міністэрстваў. Гэтым разам ні аб якіх сустрэчах дамовіцца не ўдалося.

Прадстаўнік Еўрапейскага і Цэнтральна-Азіяцкага аддзялення HRW Малколм Хоукс (Масква) расказаў аб змесце маючага быць прадстаўленым даклада аб парушэннях адукацыйных свабод і свабод навуковай творчасці ў Беларусі, які суправаджаўся выразным эпіграфам — выказваннем аднаго беларускага студэнта: "Я ведаў, што крок управа, крок улева — і мяне б выключылі з універсітэта". Як лічыць маскоўскі прадстаўнік HRW, прычына гэтых парушэнняў хаваецца ў адраджэнні аўтарытарнай палітыкі і практыкі савецкай эпохі. Так, адзначаецца, што ў Беларусі ствараюцца перашкоды для вывучэння гісторыі барацьбы за нацыянальную незалежнасць, абмяжоўваецца выкарыстанне беларускай мовы, вучоных прымушаюць прадстаўляць прыхарошаную гісторыю беларуска-расійскіх адносінаў, ва універсітэцкім асяроддзі забараняецца любая палітычная дзейнасць, акрамя дзейнасці прапрэзідэнцкага Беларускага патрыятычнага саюза моладзі: "вальнадумныя студэнты пастаянна становяцца аб'ектам пераследу".

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ,**
**БелаПАН.**

# Народ ці насельніцтва?

Страшэнны ўрон нанёс дзяржаве А.Лукашэнка за час свайго кіравання. Давёў краіну да заняпаду, а людзей — да галечы. Галоўнае ж — "плённа" папрацаваў над тым, каб канчатковаператварыць насельніцтва ў нейкі, як ні крыўдна аб гэтым гаварыць, паслухмяны статак, з якім можна рабіць усё што заўгодна. Нават такі прадбачлівы палітык, як З.Пазьняк, і той памыліўся, выстаўляючы сваю кандыдатуру ў прэзідэнты на разгляд гэтаму "народу", спадзеючыся на ягоную свядомасць. Ды па сваёй прыродзе быць такога не магло, каб З.Пазьняка выбралі б у прэзідэнты, бо любы народ заўсёды выбірае сабе кіраўніка па сваіму падабенству. І ён выбраў...

Што гэта за народ, у якога так лёгка можна адняць нацыянальныя гістарычныя сімвалы, родную мову? Пры якім, напрыклад, можна змяніць прафесійнага кіраўніка Нацыянальнага банка на вясковага будаўніка? Дзе кіраўнік дзяржавы, калі захоча, можа прыбавіць сабе яшчэ два гады прэзідэнцтва, калі ён можа зняважыць Канстытуцыю, на якой кляўся, стварыць сабе кішэнны парламент, зняважыць пры гэтым нязломнага старшыню Цэнтрвыбаркама на ўгодная сабе. І нічога, усё праходзіць...

Яшчэ не так даўно нам пашчасціла вырвацца з кіпцюроў рускага мядзведзя, а зараз зноў ворагі беларушчыны імкнуцца здаць нас гэтаму ж драпежніку на канчатковае з'ядзенне. І пры гэтым народзе такая небяспека ўсё больш становіцца рэальнай. Дык ці народ гэта?

Упэўнены, што народам называць абыякавае насельніцтва нельга. Ці ж можа народ уключаць у сябе здраднікаў, якія актыўна прымаюць удзел у знішчэнні нашай дзяржаўнасці? Ці ж можа ён мець шмат пустых душаў — прадукту апрацоўкі савецкай прапаганды, кола якой круціцца і цяпер. Адарваны ад родных каранёў, пазбаўленыя нацыянальнай годнасці, яны ператвараюцца ў духоўных люмпенаў і ўяўляюць вялікую небяспеку для будучыні нашых нашчадкаў. Разам жа з тымі, хто змяніў любоў да Бацькаўшчыны на здрадніцтва і халуйства, большасць такіх, хто ўсё бачыць і разумее, але палахліва маўчыць, баіцца высунуцца. Ёсць і такія, што не прымаюць у душы ганебную палітыку сённяшняй улады, але працягваюць яму служыць.

Асобна хочацца сказаць пра людзей сталага веку, якія нярэдка адрасуюць сваё папрокі моладзі: маўляў, "несознательная" яна расце. А вось ці задумаліся самі — як яны, такія "сознательные" і сапраўды аддаючы грамадству ўсе сілы, здароўе, дзесяткі год працы, дазволілі давесці краіну да разбітага карыта. І калі сучасная моладзь не ўдасца выправіць памылкі сваіх папярэднікаў, то іх лёс будзе яшчэ горшы. Страчаная мова, культура, забруджанае паветра, атручаныя зямля і вада, жахлівая архітэктура — вось далёка не поўны пералік "падарункаў", пакінутых нашчадкам.

Многія скажуць: "А мы тут прычым?". А пры тым, што ў часы, калі вынішчалі сапраўдных беларусаў, якія змагаліся за незалежную, вольную Беларусь, многія іхнія сучасныя — цяперашнія дзядулі і бабулі — таксама, відаць, не жадалі "высоўвацца". Яны моўчкі пераносілі ўсе здзекі бальшавіцкага тэрору і па-рабску выконвалі ўсё, што ад іх патрабавалі. Як і цяпер, іх была тады большасць — баязлівых абыякавых, пакорлівых. А вынік іх "рахманасці", празмернай талерантнасці — тое, што маем сёння.

Я кажу праўду ў вочы, якая, ведаю, не ўсім спадабаецца. Я нізка схіляю галаву перад мужнымі людзьмі, якія самаахвярна змагаліся і паміралі ў бальшавіцкіх засценках за любоў да сваёй зямлі. Яны гінулі, захоўваючы ў сваіх сэрцах нацыянальныя святыні, і нават праз смерць неслі да нас вялікі патэнцыял чалавечнасці. Толькі дзякуючы ім хоць ледзь жывую, але ж мы сёння маем Беларусь, якую нашчадкі "большасці" намагаюцца сёння зрабіць расійскім прыдаткам.

Парэшткі нашых бясстрашных патрыётаў раскінуты па ўсім абшары былога Саюза: у Курапатах, на Салаўках, на Калыме. Яны ляжаць і не могуць выказацца, бо не маюць голасу. Мы павінны гаварыць і рабіць за іх. Рабіць дзеля дабра, свабоды, шчасця Бацькаўшчыны. І вечная наша павага і пашана да тых сённяшніх дзядуль і бабуль, хто цудам захаваўся ў крывавай кругаверці і зараз працягвае сэрцам змагацца за незалежную, вольную, еўрапейскую Беларусь, за будучыню нашых нашчадкаў. Вось яны — лепшая часцінка нашага народа.

Жыве Беларусь!

**Віктар ФУРМАН.**
**Мінск.**

## З гораду Мэльбурн, Аўстралія

**паведамляюць...**

30 чэрвеня 1999 г. Беларускі Цэнтральны Камітэт, Беларускі Жаночы Камітэт і Беларускі Вызвольны Фронт супольна адсьвяткавалі 55-я ўгодкі ІІ-га Ўсебеларускага Кангрэсу. Старшыня БЦК сп. Паўлюк Гуз адчыніў Урачыстую Акадэмію і коратка напомніў пра тагачасныя палітычныя і культурныя падзеі ў Беларусі. Другі Ўсебеларускі Кангрэс, як вядома, адбыўся 27-га чэрвеня 1944 г. у Менску.

Далей было запрапанавана ўшанаваць хвілінай маўчаньня адыйшоўшага ў вечнасьць сьв. памяці вялікага беларускага патрыёта сп. Міколу Нікана.

Пасьля сп. Алег Шнэк прачытаў зьмястоўны даклад на тэму дня. Ён грунтоўна расказаў аб прабегу Кангрэсу і яго гістарычным значэньні.

Некалькі слоў з нагоды гэтае падзеі сказалі, а. А. Грыцук і сп. Ян Барысевіч.

У мастацкай частцы спд. Вера Шайпак і сп. А. Груша прачыталі прынагодныя вершы. Адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..." урачыстасьць закончылася.

За сяброўскім пачастункам, падрыхтаваным сп-твам Грушамі, прысутныя абменьваліся сваімі думкамі і ўспамінамі.

П. Гуз.



**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!!!**

**Моцна просім не забывацца перасылаць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты. "Беларускі Дайджэст"— незалежная газэта выдаецца толькі дзякуючы вялікай ахвярнасьці людзей добрае волі. Калі ласка, просім, памятайце пра нас... Шчыра дзякуем!**

# Барацьба з эпідэміяй туберкулёзу патрабуе дзяржаўнай падтрымкі

"Звязда"

**Кожны дзень ад туберкулёзу ў Беларусі паміраюць адзін-два чалавекі. У параўнанні з 1990 годам пакажчык захворвання на туберкулёз павялічыўся ў нашай краіне ўжо на 84,4 працэнта, а смяротнасць ад яго — на 60,5 працэнта.**

Захворваемасць бацылярнымі формамі туберкулёзу ўзрасла за гэты перыяд у 1,9 раза. Каб наглядна прадэманстраваць, якімі тэмпамі палачка Коха вядзе наступленне на Беларусь, дастаткова прывесці наступныя лічбы: у 1991 годзе колькасць захварэўшых на туберкулёз складала 3154 чалавекі, 1994-м — 4348, 1995-м — 4511, у 1997-м — 5400 чалавек. Летась захварэлі на туберкулёз ужо 5595 жыхароў нашай рэспублікі, 744 чалавекі былі прызнаны інвалідамі і 702 — памерлі. Найбольшая колькасць захварэўшых на туберкулёз з'яўляюцца на сённяшні дзень жыхарамі Гомельскай вобласці. Дарэчы, 49 працэнтаў дзяцей, якія захварэлі летась на туберкулёз, пражываюць таксама на Гомельшчыне. Вынікі праверкі стану рэспубліканскай процітуберкулёзнай дапамогі насельніцтву, прычыны трывожнай эпідэміялагічнай сітуацыі з захворваннем на туберкулёз і шляхі выхаду з яе сталі тэмай правядзення ў Міністэрстве аховы здароўя рэспублікі сумеснай калегіі з Камітэтам дзяржаўнага кантролю.

Як прызнаюць самі медыкі, сапраўдная эпідэмія туберкулёзу ахапіла ў Беларусі следчыя ізалятары, турмы і папраўча-працоўныя ўстановы, дзе пакажчык захворвання на туберкулёз у 30 разоў вышэй за аналагічны агульнарэспубліканскі пакажчык, а гадавы прырост захворвання тут вышэй, чым у сярэднім па рэспубліцы, у 5 разоў. Многія звызваленыя свядома імкнуцца захварэць на туберкулёз, каб атрымаць потым у сувязі з хваробай значную палёгку ў рэжыме ўтрымання.

Сур'ёзны ўклад у агульную статыстыку захворвання ўносяць асобы, якія вызваліліся з месцаў пазбаўлення волі, бамжы, наркаманы, алкаголікі, мігранты, людзі з малазабяспечаных сем'яў. Нездарма ж туберкулёз лічыцца ў першую чаргу сацыяльнай хваробай. У найбольшай ступені пакутуюць ад туберкулёзу жыхары сельскай мясцовасці: захворваемасць у вёсцы вышэй, чым у горадзе, у 1,4 раза.

Між іншым, актывізаваўся туберкулёз апошнім часам і сярод пагалоўя буйной рагатай жывёлы: у 1998 годзе гэтая хвароба была выяўлена ў 1595 жывёлін. Улічваючы ж тыя абставіны, што з-за спакотнага надвор'я ў нашай краіне сёлета не будзе назапашана ў дастатковай колькасці кармоў, няцяжка спрагназіраваць, што зімой эпідэмія туберкулёзу толькі павялічыцца.

Сярод іншых негатыўных тэндэнцый хацелася б выдзеліць рост прафесійнай захворваемасці сярод работнікаў процітуберкулёзных устаноў, падзенне прэстыжнасці сярод навучэнцаў вышэйшых медыцынскіх устаноў прафесіі фтызіятра, наяўнасць дэфіцыту кадраў у шэрагу рэгіёнаў, марудныя тэмпы выдзялення дзяржавай жылля хворым на туберкулёз, перабоі з пастаўкамі ў стацыянары лекавых прэпаратаў, слабы ўдзел у правядзенні процітуберкулёзных мерапрыемстваў санітарна-эпідэміялагічных службаў многіх раёнаў, рост колькасці лекаваўстойлівых формаў туберкулёзу, лячэнне якіх абыходзіцца дзяржаве ў 25 тысяч долараў. Для параўнання: лячэнне звычайнага хворага каштуе значна менш — 2 тысячы долараў.

Па-ранейшаму застаюцца нявырашанымі шматлікія пытанні ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы процітуберкулёзных устаноў. З-за недахвату фінансавання тут марудна ўкараняюцца новыя тэхналогіі дыягностыкі і лячэння. Самым даступным сродкам дыягностыкі па-ранейшаму застаецца флюараграфія. Але ў краіне адчуваецца вострая нястача флюараграфічных апаратаў. Каля паловы з іх, якімі валодае сёння наша сістэма аховы здароўя, ужо даўно выпрацавалі свае тэрміны эксплуатацыі. У некаторых медыцынскіх установах флюарографы не функцыянуюць з-за адсутнасці запчастак.

Найлепш ахопленыя флюараграфіяй Гомельская і Магілёўская вобласці, але і тут парк флюараграфічных апаратаў не спраўляецца з неабходнымі аб'ёмамі працы. Даволі «дзейсны» спосаб павелічэння колькасці абследаваных жыхароў знайшлі мінскія спецыялісты: у справаздачах сталічных паліклінік лічбы прайшоўшых флюараграфію мінчан імі свядома завышаліся. Безумоўна, стопрацэнтна ахапіць амаль двухмільённы горад флюараграфічным абследаваннем не ўяўляецца магчымым, але тым мінчанам, якія ігнаруюць запрашэнні прайсці абследаванне, не шкодзіць даведацца, што ў тых рэгіёнах, дзе ахоп насельніцтва флюараграфіяй складае толькі 70 працэнтаў, своечасова не выяўляюцца 5—10 працэнтаў захварэўшых. Яны звяртаюцца па дапамогу медыкаў значна пазней, з ужо запушчанымі формамі туберкулёзу.

**Ці можна знайсці выйсце з гэтай сітуацыі?** Як падкрэсліла ў сваёй гутарцы з журналістамі намеснік міністра аховы здароўя Ларыса Сакалоўская, процітуберкулёзнай праграме, якая рэалізуецца сёння Міністэрствам аховы здароўя, трэба надаць статус дзяржаўнай, з адпаведным рэгулярным фінансаваннем з рэспубліканскага бюджэту. Далей змагацца з палачкай Коха на адным энтузіязме, па яе словах, проста недапушчальна. Варта заўважыць, што ў прынятым на сумеснай калегіі Камітэта дзяржаўнага кантролю і Міністэрства аховы рэспублікі рашэнні, у прыватнасці, прадугледжваецца прыняцце ў бліжэйшы час у Беларусі дзяржаўнай праграмы «Туберкулёз». Таксама ў ёй звяртаецца ўвага на неабходнасць аб'яднання ў барацьбе з туберкулёзанай эпідэміяй намаганняў некалькіх міністэрстваў (аховы здароўя, фінансаў, унутраных спраў, абароны, сельскай гаспадаркі, сацыяльнай абароны), абласнога і Мінскага гарвыканкамаў.

Прагноз жа на бліжэйшыя год-два спецыялісты даюць несуцяшальны: нягледзячы на ўсе прымаемыя меры, захворванне на туберкулёз у Беларусі не толькі не знізіцца, але і будзе расці...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына...

| | | |
|---|---|---|
| 207. | Др. Мацьвей Б. Смаршчок | $50.oo |
| 208. | Івонка Сурвілла (Канада) | $40.oo |
| 209. | Вольга Яськевіч | $50.oo |
| 210. | а. Васіль Кендыш | $50.oo |
| 211. | Др. Марыя Плескач | $50.oo |
| 212. | Лена Плескач-Шаўвэр | $50.oo |

Прадаўжэньне Л І С Т Ы ахвярадаўцаў у наступных №№ нашае газэты...

Моцна просім нашых чытачоў перасылаць свае ахвяры на Музэй на наш адрас, на прозьвішча М. Прускі.

**Усіх тых людзей добрае волі, хто дасюль яшчэ не пераслаў свае ахвяры, ветліва просім не адкладаць гэтую справу на пазьней, а выслаць ахвяру яшчэ сёньня... Дзякуем!**






## ТОЕ-СЁЕ...

На пытаньне М. Падолека ў "Беларускай газэце" — Чаму савецкі люмпен і маргінал так пасьпяхова прыжыўся якраз на беларускай зямлі? — Ю. Хадыка адказаў: "Ёсьць цікавыя статыстычныя даныя. Пасьля вайны на тэрыторыі Беларусі пражывала 3% расейцаў і больш 10% яўрэяў. Цяпер наадварот: яўрэяў менш 1%, а расейцаў 13%. Фактар нацыянальнай прыналежнасьці заўсёды быў фактарам асаблівай гордасьці расейцаў. Яны несьлі сюды саўковы прагрэс... Хто ачольваў нашы вялікія прамысловыя прадпрыемствы, дзяржаўныя органы? На першым месцы заўсёды стаялі расейцы, на другім украінцы, на трэцім — яўрэі, і толькі на чацьвёртым — беларусы. У той-жа час праз сыстэму адукацыі... лепшыя выхадцы з Беларусі асядалі на неабнятых прасторах Расеі".

# Пакутніцкая зямля, пакутніцкі крыж...

"Народная Воля"

Усяго ў некалькіх кроках ад сталічнага мікараёна Зялёны Луг-6 — толькі перайсці кальцавую дарогу — ляжыць гэтая зямля. Набрынялая крывёю нявінных ахвяр, усеяная шматлікімі ямінамі-правалами на месцах магіл, нагадваючых пустыя вачніцы.

Курапаты... Наш несціханы боль, пякучая, нязгасная памяць аб трагічных падзеях, што адбываліся тут на працягу 1937—1941 гадоў, у часы сталінскіх рэпрэсій. Дзень і ноч працавала тут бязлітасная машына смерці: штодня прывозілі сюды на машынах дзесяткі вязняў са звязанымі рукамі, ставілі на край свежавыкапаных вялікіх ям — і стралялі, запаўняючы магілы чалавечымі целамі, пакладзенымі ў некалькі радоў, бы дровы...

Перадсмяротныя крыкі і стогны пакутнікаў, трэск несціханых стрэлаў некалькі год запар чулі жыхары навакольных вёсак, працуючы на калгасным полі ці збіраючы ў лесе ягады. Многія сведкі тых жудасных падзей жывыя і зараз. Яны распавядаюць пра тое, чаго нельга забыць і нельга дараваць — аб злачынствах бесчалавечнай сістэмы супраць сваіх грамадзян. Злачынствах, якім няма тэрміну даўнасці і якіх не выкрэсліць з пакутніцкай гісторыі нашай Бацькаўшчыны.

Больш за дзесяць год таму праўда аб Курапатах выбухнула і ўскалыхнула Беларусь і ўвесь свет. Сярод лясного гушчару ўзняўся высокі крыж у памяць усіх, хто загінуў ад рук бязлітасных катаў: слынных паэтах і простых сялянах, людзях розных вераванняў, нацыянальнасцей і ўзростаў, паядданых страшным лёсам у гэтых брацкіх магілах. А непадалёк ад крыжа, на пагорку, быў пастаўлены камень з пастановай-абяцаннем тагачаснага беларускага ўрада ўзвесці на гэтым месцы мемарыял.






Мемарыяла няма і па сённяшні дзень. Але Курапаты, вядомыя цяпер усёй планеце, сталі месцам народнага паломніцтва. У святы і будні людзі прыходзяць сюды з кветкамі, запальваюць свечкі, кланяюцца тым, хто тут ляжыць і чый прах стаў зямлёй, травой, белымі пяшчотнымі пялёсткамі. Прыходзяць памаліцца, падумаць. Слухаюць трывожны пошум дрэў, у якім чуюцца галасы жальбы і праклёну.

Сюды прыходзяць, дзеля таго, каб памяць і праўда аб некалі перажытых народам выпрабаваннях былі вечнай перасцярогай жывым: "Не дапусціце вяртання жахлівых прывідаў мінулага!"

Але самі "прывіды" ў мінулае канчаткова яшчэ не сышлі. Праўда для іх смерці падобна, і яны ваююць з ёю зацята і ўпарта. Розныя "камісіі" праціўрагаюць раскоп магіл, не даючы спакою касцям шматпакутных ахвяр. Усё намагаюцца даказаць: маўляў, "не тых" расстрэльвалі і "не тыя"... Сюды наведваюцца банды марадзёраў, не спыняючыся перад прамым дзікунствам і кашчунствам: шукаюць сярод сатлелых парэшткаў міфічнае "золата", раскідваюць чалавечыя косці па лесе. Тут можна ўбачыць цёпленькую "шашлычную" кампанію, утульна ўладкаваную побач з кустоўем, пад якім бялее чэрап з дзіркай на патыліцы... Тут выгульваюць сабак і выпіваюць-закусваюць "інтэлектуалы" з шыза-чырвонымі насамі, пакідаючы пасьсля смецце і іншыя знакі "высокай культуры".

Гнюсныя акты вандалізму ў Курапатах з цягам часу пачашчаюцца. Ужо не раз нечыя брудныя рукі завальвалі шыльду-ўказальнік аб тым, што тут — месца масавых расстрэлаў у часы сталінскіх рэпрэсій; адлітыя з металу словы нехта раскідаў па гушчары. Не раз зразаліся павязаныя на крыжы вышытыя ручнікі, тапталіся кветкі вакол яго, падпілоўваўся сам крыж. А нядаўна ад металічнай пліты з надпісам "Пакутнікам Беларусі" ля яго падножжа (гл. здымкі) адбілі ладны кавалак — усю верхнюю частку. Некаму давялося пастарацца...

"Некаму", "нехта"... На жаль, курапатаўскія злачынцы, для якіх няма нічога святога, так ні разу і не былі выяўлены, тым больш — прыцягнуты да адказнасці. Тэрыторыя ўрочышча з масавымі пахаваннямі нашых суграмадзян, што ўваходзіць у склад Ждановіцкага лясніцтва, да гэтай пары не агароджана і фактычна не ахоўваецца. "Скажуць сачыць за парадкам — будзем сачыць, а пакуль такіх распараджэнняў не паступала", — патлумачыў малады міліцэйскі сяржант, сустрэты аднойчы (рэдкая за шмат гадоў сустрэча!) у Курапатах.

Сённяшнія ўлады, ад якіх залежыць і ўзвядзенне помніка ахвярам таталітарызму, і арганізацыя аховы святой мясціны, чамусьці не надта імкнуцца засведчыць рашучае развітанне са змрочным мінулым. Няўжо лічаць вандалізм нармальнай, не вартай увагі з'явай на парозе XXI стагоддзя ў самым цэнтры Еўропы?

Трывожныя пытанні не даюць спакою на гэтай пакутніцкай зямлі. Але ясна адно: праўду аб Курапатах ужо нікому не закапаць. Яна не дае заснуць нашаму сумленню, нашай адказнасці за будучае роднай Бацькаўшчыны.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**
**Фота Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**